3 Гісторыя, якой няма ў падручніках
5 На вайне кожны хоча застацца жывым
7 Ловушки для одинокой женщины



Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская



№17 (150). 20 — 26 красавіка 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 70 руб.

## "Камунальнік" быў варты ЛЕПШАГА ЗЫХОДУ МАТЧУ



Фота Віталя ГІЛЯ

Матэрыял чытайце на 12 стр.

## Зарплату медыкам паабяцалі даць

**У мінулы чацвер, 13 красавіка, у памяшканні Слонімскага медаб'яднання адбылася сустрэча дактароў са старшынёй гарвыканкама Алегам Лакцюшыным.**

Падставай для гэтага стала пісьмо за подпісам 250-ці медработнікаў, якія скардзіліся на тое, што ім несвоечасова выплочваюць зарплату.

Старшыня гарвыканкама ў шчырай размове растлумачыў прычыны затрымкі заробку. У прыватнасці, гэта звязана з цяжкай эканамічнай сітуацыяй у краіне. Ён таксама адказаў і на пытанні медыкаў. Дарэчы, зарплату работнікам медыцыны ўжо часткова пачалі выплочваць. І паабяцалі, што ў бліжэйшы час яе атрымаюць усе медыкі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Са святам Вялікадня!

**Дарагія браты і сёстры!**



Гэты год вельмі важны для ўсіх хрысціянаў. Ён юбілейны. Сёлета спаўняецца 2000 гадоў нараджэння Ісуса Хрыста, сына Божага. Ва ўсім свеце хрысціяне і людзі добрай волі адзначаюць гэты год святочнымі набажэнствамі, і як уся прырода ажывае пасля зімы вясной, так і хрысціянскі свет ажывае ў вялікодныя дні.

У гэты радасны дзень юбілейнага года ўсім вам жадаю, каб Божыя радасць і супакой запанавалі ў вашых душах, у вашых сем'ях і ва ўсёй нашай краіне. Каб мы ўсе разам няспынна хвалілі Бога і радасна спявалі "Алілуя!".

**Айцец Вітольд ЖЭЛЬВЕТРА,**
ксёндз-дэкан касцёла Св. Андрэя

## Адным даўгабудам СТАНЕ МЕНШ?

**Нядаўна аднавіліся работы на будоўлі лёгкаатлетычнага манежа ў Слоніме.**

Пра гэты даўгабуд «ГС» пісала ў траўні мінулага года. Справа ў тым, што на пачатку 90-х гадоў слонімскім католікам быў вернуты будынак каля касцёла Св. Андрэя, які займала спартыўная школа. Тады і ўзнікла ідэя пабудаваць легкаатлетычны манеж на стадыёне «Юнацтва». Аднак грошай чамусьці не хапіла...

Па словах загадчыка аддзела па фізкультуры і спорту гарвыканкама Генадзя Вількіцкага, сапраўды, гэты аб'ект будуецца не першы год, але сёлета запланавана яго здача. У Маскве ўжо замоўлена спецыяльнае пакрыццё для манежа.

**Сяргей ЁРШ**



Фота Віталя ГІЛЯ

## Шалёная ліса ў Якімавічах

**Днямі ў вёску Якімавічы Слонімскага раёна заблукала ліса. Яна хапала курэй, палохала сабак.**

Трое жыхароў гэтай вёскі злавілі лісу і знялі з яе скуру. Потым футра аддалі для апрацоўкі майстру. Праз пэўны час нехта падказаў вяскоўцам, што ліса магла быць шалёнай. Пасля лабараторнага абследавання, факт на шаленства лісы пацвердзіўся. Чацвёра жыхароў Якімавіч, якія мелі дачыненне да рыжай госці, абследуюцца дактарамі. А ў вёску выязджала група медыкаў, якія правялі гутарку аб шкодзе шаленства.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## СПАСУТ ЛИ ШЕФЫ СЕЛО?

По официальной информации, сегодня предприятия Слонима командировали на село района 113 рабочих, в том числе 37 механизаторов. Эта городская бригада должна помочь крестьянам посеять яровые культуры. Кроме того, на разных видах сельскохозяйственных работ трудятся люди, направленные центром занятости населения, солдаты срочной службы и студенты.

**(Продолжение на 4 стр.)**



Фота IREX/ProMedia

## На птушкафабрыцы новы кіраўнік

**Новым дырэктарам Слонімскай птушкафабрыкі стаў Мікалай Жыткевіч.**

Адзначым, што да гэтага Мікалай Уладзіміравіч працаваў старшынёй калгаса імя Суворава.

## Запазычанасць спадзяюцца ліквідаваць

**Слонімскія настаўнікі нейкі час не маглі атрымаць зарплату.**

Загадчык гарадскога аддзела адукацыі Аркадзь Бумагін пагадзіўся, што затрымка з выплатай грошай "атрымалася досыць вялікая", але прычына гэтага – у недахопе грошай у гарадскім бюджэце. Аднак грошы настаўнікам ужо выплочваюцца, і Аркадзь Рафаэлавіч спадзяецца, што на гэтым тыдні запазычанасць павінна быць цалкам ліквідавана.

**Сяргей ЁРШ**

## Брыкету няма — пілуй бярозы

**17 красавіка на ўчастку шашы Гродна–Баранавічы, што каля Зэльвы, можна было назіраць даволі дзіўны малюнак.**

З боку трасы стаяла пажарная машына, і група пажарных у форме зваліла таўшчэзную бярозу. Па словах "лесарубаў", на гэты крок яны пайшлі па той прычыне, што скончыўся брыкет і няма чым паліць печы ў пажарнай часці. Калі так і надалей пойдзе справа, то можа здарыцца, што абапал шашы ўвогуле не застанецца дрэў.

**Алесь САСНА**

## У Зэльве ведаюць, як эканоміць

**З панядзелка ў Зэльве адключылі гарачую ваду.**

Згодна рашэнню райвыканкама, у кватэры вада будзе падавацца толькі ў пятніцу, суботу і нядзелю. Ужо каторы год запар такім чынам мясцовыя ўлады эканомяць энергарэсурсы.

Штодзённа гарачая вада будзе падавацца з надыходам халадоў.

**Алесь САСНА**

## Тарыфы на электраэнергію павялічыліся ўдвая

**З 15 красавіка ў два разы павялічыліся тарыфы на электраэнергію для насельніцтва.**

Гарадскія жыхары будуць плаціць 3,6 рубля за кВт/г, а ў дамах, абсталяваных электраплітамі — 2,6 рубля за кВт/г. Сельскае насельніцтва будзе плаціць таксама 2,6 рубля за кожную кВт/г.

Не выключана, што ўжо з пачатку наступнага месяца тарыфы на электраэнергію для насельніцтва могуць зноў павялічыцца.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# АНАНІМНЫЯ АЛКАГОЛІКІ сабраліся ў Слоніме

**У Слоніме адбыўся рэспубліканскі з'езд ананімных алкаголікаў.**

На яго з'ехаліся людзі з многіх гарадоў Беларусі, якія раней моцна ўжывалі алкагольныя напіткі. Цяпер яны перакананыя непітушчыя. Былі тут прадстаўнікі розных узростаў і прафесій, нават царкоўныя служкі, а таксама жанчыны.

Яны расказвалі пра тое, як з-за гарэлкі не бачылі жыцця, як яна іх чуць не загнала ў магілу. Яны дзякавалі Богу і ўрачам за тое, што выратавалі іх ад гэтай страшнай хваробы.

Для дэлегатаў з'езда быў арганізаваны салодкі стол.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Выстава працягнецца да восені

**У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі адкрылася выстава пад назваю "Гарадская культура пачатку XX стагоддзя".**

Прадстаўленыя на ёй экспанаты адлюстроўваюць рэлігійны, духоўны і свецкі лад жыцця суайчыннікаў у той далёкі час. Тут ёсць паштоўкі гарадоў, фотаздымкі людзей, а таксама рэчы побыту і адзенне. На выставе дэманструюцца экспанаты, якія адлюстроўваюць і тагачаснае тэатральнае жыццё.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Смерць пад колам

**На мінулым тыдні ў вёсцы Ашнаравічы Слонімскага раёна адбыўся трагічны выпадак.**

Позна ўвечары двое хлопчыкаў гулялі каля будынка старой лазні. Адзін з іх падышоў да вялізнага кола ад "Кіраўца", якое там прастаяла ўжо некалькі гадоў, і зачапіў яго. Кола нахілілася і ўпала на хлопчыка. 9-гадовы Коля памёр на месцы ад удушша.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Першы пікет у Зэльве

**У мінулую суботу, 15 красавіка, у Зэльве прайшоў пікет у абарону незалежнасці Беларусі.**

У Зэльве гэта была першая падобная акцыя. Дазвол на яе правядзенне мясцовыя ўлады далі пасля сёмага запыту апазіцыйна настроеных жыхароў. У пікеце ўдзельнічала 18 чалавек, якія прыйшлі на стадыён "Колас". За парадкам падчас яго правядзення наглядала столькі ж работнікаў міліцыі. Хоць акцыя прайшла спакойна, але яе арганізатары ў панядзелак былі запрошаны для размовы да начальніка зэльвенскай міліцыі.

**Алесь САСНА**

## У Слоніме будзе Пеўчае поле

**Паміж раённым домам культуры і каналам Агінскага пачалося добраўпарадкаванне тэрыторыі пад незвычайны пляц.**

Як сказала карэспандэнту "ГС" загадчыца аддзела культуры райвыканкама Святлана Раманюк, у будучым там плануюць зрабіць Пеўчае поле. Менавіта на тым месцы будуць праходзіць гарадскія і раённыя святы, гулянні, канцэрты мастацкай самадзейнасці, працаваць гандлёвыя кропкі.

Да гэтага на будучым культурным месцы знаходзіліся агароды слонімцаў і сметнік. На ранейшых градках з часам будуць спяваць і танчыць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# ЧАЛАВЕК З НОЖЫКАМ

Мы стаялі на аўтобусным прыпынку, наскрозь працінаемыя сцюдзёным ветрам. Ад яго не ратаваў нават маленькі павільёнчык. Усе з нецярпеннем паглядалі ў той бок, адкуль павінен быў паказацца аўтобус. А яго ўсё не было. І калі праз сорак мінут людзі ўжо страцілі ўсялякую надзею, далёка на шашы з'явілася тое, чаго мы так чакалі. Усе ажывіліся, узрадаваліся, уздыхнулі з палёгкай: ну, нарэшце! Але радасць для многіх была заўчаснай. На прыпынку сабралася чалавек каля дваццаці, а шафёр, стаўшы ў дзвярах аб'явіў:

— Спакойна, не лезьце адзін другому на галовы, бо ўсё роўна ўсе не паедзеце. Вазьму толькі восем чалавек і ні больш.

Што тут пачалося! Просьбы, праклёны...

— Я і так спазняюся на цягнік!

— Вазьміце, мне сёння абавязкова трэба быць дома, а больш аўтобуса ўжо не будзе...

— А каб ты не даехаў! Мала таго, што спазніўся ледзь не на гадзіну, дык яшчэ і не бярэ!

Я аказалася восьмай, апошняй са шчаслівчыкаў. І як толькі ступіла ў аўтобус, дзверы адразу ж зачыніліся. Чамусьці ніякавата было бачыць праз акно тых, хто застаўся на халодным ветры. У душы варухнулася непрыязь да шафёра: мог жа яшчэ ўзяць пару чалавек, каб у салоне як след пацiснуліся...

— Грошы на квіткі шукайце без рэшты, бо я і так спазняюся, — аб'явіў ён.

Усе моўчкі пачалі корпацца ў кашальках, а шафёр заняўся такой маніпуляцыяй, што цяжка апісаць. Ён узяў пачак квіткоў і, выбраўшы адзін, паклаў на невялічкую пласцікавую дошчачку, а потым добра завостраным малюсенькім ножычкам пачаў выразваць на тым квітку нейкія зігзагі. Гэта ён такім чынам імкнуўся паказаць, колькі кіламетраў мяркуе праехаць той ці іншы пасажыр і колькі грошай за гэта мусіць заплаціць. Пальцы ў вадзіцеля ў некалькіх месцах былі залеплены лейкапластырам.

Нечакана квіток паехаў па дошчачцы, і лязо чыркануло няправільна, разрэзала нейкую лічбу. Вадзіцель са злосцю кінуў ножык у скрыначку, дзе ляжалі грошы, і дастаў адтуль нажніцы. Але нажніцамі справа пайшла марудней, і неўзабаве ён зноў узяў ножык.



Фота Віталя ГІЛЯ

Пакуль выразваў тыя зігзагі, адлічваў рэшту, запісваў квіткі ў ведамасць, мінуў час...

Нарэшце мы рушылі ў дарогу. І тут адна дама раптам успомніла, што забылася купіць квіток яшчэ на папярэднім прыпынку. Вадзіцель прадэманстраваў добрае веданне лексікона арго, спыніў аўтобус, пачаў ножыкам выразваць на квітку зігзагі...

Калі аўтобус нарэшце зноў зрушыў з месца, ён правёў далонёю па змакрэлым лобе і з горыччу сказаў:

— Каб было дзе ўладкавацца на работу, ні мінуты не працаваў бы за рулём, асабліва на гэтым міжгарадзе. Лепш зямлю капаць.

Адчувалася, што яму трэба было выгаварыцца, бо вельмі ж набалела на душы. Ды, прызнацца, гледзячы на гэтыя маніпуляцыі з квіткамі, на бездапаможнасць, і я міжволі пагадзілася, што работа ў яго яшчэ тая. Ды квіткі што! Колькі здароўя, колькі нерваў забірае кожны такі рэйс.

— Я цяпер іду са спазненнем на 40 мінут, а ўлічваючы гэты прыпынак — на ўсе 55. Людзі спознацца на цягнік, на другі аўтобус, праклінаюць мяне на чым свет стаіць. Сёння раніцай нейкі пажылы грамадзянін адстаў ад цягніка з-за таго, што я прыбыў на канцавы прыпынак са спазненнем на гадзіну. Колькі нерваў гэта мне каштавала! Пайшлі да дыспечара ды начальніка аўтавакзала. Ды што тут зробіш: цягнік пайшоў. Я шчыра спачуваю гэтаму чалавеку, а хто паспачувае мне? Не па сваёй волі пакідаю людзей на халодным ветры: строга забаронена перагружаць аўтобус. Ды я яго і не перагружаю. Але іншы раз ужо так давядуць, што, здаецца, кінуў бы ўсё сярод поля і пайшоў бы куды вочы глядзяць.

— І многа вы атрымліваеце за такую работу?

— Пра што вы кажаце? Я ў гэтым месяцы па графіку павінен наездзіць усяго 50 гадзін. Працаваць буду толькі пяць дзён. Дык няцяжка ўявіць, якая тут можа быць плата. А ў мяне ж дома сям'я, дзеці.

Да таго ж, калі хочаш працаваць, павінен за свае грошы купляць запчасткі. Я прыдбаў два "лысыя" колы, за свой кошт здаў іх у наварку, купіў яшчэ адну дэталь. Так і езджу.

— А без квіткоў вазіць не практыкуеце? Сярод вашага брата-аўтобусніка гэта бывае, — хацела пакпіць кабета.

— Бывае, — шчыра згаджаецца ён. — Іншы раз проста трэба ўкрасці, калі ў хаце ні рубля. Але баюся страціць і гэты заробак. І з кантралёрамі "дамовіцца" не магу. Няма грошай.

Я нічога не зразумела.

— Што пазіраеце? На лапу трэба даць кантралёру, калі без квіткоў вязеш. Не ўсім, праўда, але ёсць такія, што бяруць.

— Дык якая карысць ад усяго гэтага дзяржаве?

— Правільна, ніякай. Ні дзяржаве, ні кожнаму чалавеку паасобку. Улічыце яшчэ і тое, што пры такой арганізацыі працы перарасходуецца бензін. Гэта добра, што ў мяне акумулятар надзейны і я, пакуль прадаю квіткі пасажырам, рухавік глушу. А ў некаторых аўтобусах акумулятары, што называецца, дыхаюць на ладан. То пакуль вадзіцель на прыпынку навыразае 10-12 квіткоў, пакуль запіша ў ведамасць, палічыць грошы, рухавік працуе.

— Няўжо нельга спрасціць неяк выдачу квіткоў і ўпарадкаваць улік?

— Можна, вядома, але хто будзе гэтым займацца? Колькі разоў мы, вадзіцелі, прасілі аб гэтым сваё кіраўніцтва. Тыя, што сядзяць у бухгалтэрыі, кажуць:

— А вы не спяшайцеся, памаленьку выдавайце квіткі, акуратна ўсё запісвайце ў ведамасць... Добра ім разважаць, седзячы ў кабінеце. А тут заспяшаешся, калі пасажыры ледзь не за горла бяруць, бо аўтобус спазняецца.

— А якое выйсце са становішча бачыце асабіста вы?

— Я? — ён усміхнуўся. — Я наогул адмовіўся б ад квіткоў. Кажу гэта сур'ёзна. Вось, выязджае вадзіцель у рэйс, і яму заданне: вечарам здаць у касу столькі і столькі грошай. Не хапае — дакладвай сваімі, больш сабраў — забірай сабе. Думаеце, дзяржава была б ад гэтага ў пройгрышы? Ні ў якім выпадку! Па-першае, не кралі б вадзіцелі. Па-другое, не трэба было б утрымліваць такую армію кантралёраў.

За паваротам паказаўся прыпынак. Там мне трэба было выходзіць. Спыніўшы аўтобус, вадзіцель зноў стаў у дзвярах, бо жадаючых ехаць было вельмі шмат.

— Колькі чалавек выйдзе, столькі і зойдзе, бо аўтобус і так перагружаны, — гучна аб'явіў ён.

А ў адказ — незадаволены гул натоўпу, просьбы, праклёны...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Каб граматнымі былі дзеткі

**Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт выдаў кнігу "Дыдактычны матэрыял для ўрокаў навучання грамаце" курса "Методыка выкладання беларускай мовы ў пачатковых класах".**

Складальнікамі гэтага выдання з'яўляюцца Зоя Тамашэвіч і Аляксей Якімовіч.

У новай кнізе сабраны багаты літаратурны матэрыял на літары алфавіта: загадкі, скорагаворкі, чыстагаворкі, вершы, казкі. На кожную літару Аляксей Якімовіч напісаў казкі. Героямі іх выступаюць птушкі, звяры, літары, а таксама хлопчыкі, дзяўчынкі і іх бацькі.

Адным словам, выданне вельмі каштоўнае і неабходнае. Праўда, наклад яго ўсяго 120 экземпляраў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Прыз ад гледачоў

**Яго атрымала вучаніца Дзятлаўскай школы мастацтваў Наталля Буцар, якая ўдзельнічала ў абласным фестывалі народнай музыкі, што прайшоў у Лідзе.**

Наталля іграла на баяне. За выканаўчае майстэрства дзяўчынка атрымала грамату і каштоўны падарунак.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі .........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Падпісана да друку 19 красавіка 2000г. Час падпісання 10:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8400 экз.
Заказ №1429
© «Газета Слонімская» Спасылка на "ГС" абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

# ПРАВЯЛІ НА ПЕНСІЮ

**Нядаўна ў рэдакцыю "ГС" завітаў былы рабочы слонімскай фабрыкі "Гасцінічная мэбля" Анатолій Пятровіч Бадуноў, які расказаў аб тым, як яго правялі на пенсію.**

27 сакавіка Анатолію Пятровічу споўнілася 60 гадоў. У гэты дзень у прафкаме прадпрыемства яму сказалі, што па калектыўнай дамове па выхадзе на пенсію чалавек павінен атрымаць падарунак на суму 22 тысячы рублёў. Але замест падарунка яму прапанавалі ... прынесці чэк на такую суму. Каб, маўляў, пасля фабрыка змагла выплаціць яму гэтыя грошы. Калі ж Анатолій Пятровіч паведаміў, што не можа зрабіць сабе "падарунак" на такую суму (няма столькі грошай), яго папрасілі пачакаць. Наступны раз выклікалі ў прафкам 31 сакавіка, папрасілі прабачэння і сказалі, што грошай пакуль няма, а букет кветак, які падрыхтавалі, ... завяў.

Так сталася, што трэцяга красавіка Анатолій Пятровіч трапіў у бальніцу. Калі ж праз два тыдні выпісаўся, то зноў даведаўся, што тых 22-х тысяч "пенсіянерскіх" у прадпрыемства ўсё яшчэ няма. На фабрыцы параілі чакаць да палучкі. І цяпер чалавек хвалюецца, што ўвогуле можа не атрымаць сваіх грошай.

У тэлефоннай размове з карэспадэнтам "ГС" казначэй прафкама прадпрыемства Ларыса Случко сказала, што Анатолій Пятровіч Бадуноў атрымае грошы, як толькі на фабрыцы будзе зарплата.

Пенсіянеру застаецца толькі спадзявацца, што зарплата ўсё ж будзе.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## Прафсаюзная адукацыя

**На мінулым тыдні ў Слоніме прайшоў пяцідзённы семінар "Прафсаюзная адукацыя".**

Яго арганізавала суполка Свабоднага прафсаюза камвольна-прадзільнай фабрыкі. Аднак у семінары ўдзельнічалі не толькі работнікі КПФ, але і працаўнікі іншых прадпрыемстваў горада. Падчас заняткаў слонімцы пазнаёміліся з задачамі, якія стаяць перад прафсаюзамі, з іх структурай, метадамі арганізацыі працы і вырашэння праблем у прафсаюзе.

Па словах кіраўніка суполкі Свабоднага прафсаюза камвольна-прадзільнай фабрыкі Віталя Яшану, на сённяшні час вельмі важна павысіць адукацыю сяброў прафсаюза, знаёміць іх з працоўным кодэксам, з працоўнай дамовай. "Людзі павінны ведаць свае правы і магчымасці для іх абароны", — сказаў Віталь Яшану.

Трэба адзначыць, што семінар адбыўся, дзякуючы дапамозе Савета Свабоднага прафсаюза беларускага.

**Сяргей ЁРШ**

## І ў Мастах будуць ліцэісты

**Як паведаміла намеснік загадчыка аддзела адукацыі Мастоўскага райвыканкама, з пачатку новага навучальнага года ліцэйскія класы будуць адкрыты ва ўсіх школах горада.**

У іх будзе весціся паглыбленае вывучэнне матэматыкі і замежнай мовы (англійскай). У гэтых класах могуць вучыцца і вясковыя дзеці, але пры ўмове, што будуць жыць на кватэры ў сваякоў. Для правядзення лекцый, семінараў будуць запрошаны выкладчыкі Гродзенскага ўніверсітэта.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Напамін пра Божую кару

**У вёсцы Галынка Зэльвенскага раёна ідзе будаўніцтва праваслаўнага храма.**

Будаўнічая пляцоўка не агароджана, але там знаходзіцца шмат матэрыялаў. Відаць, верующым цяжка супрацьстаяць бязбожным прыватызатарам па-савецку, і таму яны прызвалі на дапамогу Бога. На дошцы яны напісалі фарбаю "Не тронь, Господь накажет" ды змясцілі шыльду на відным месцы.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Дыябетчыкам даюць мала кашы

**У Мастах налічваецца 410 хворых на цукровы дыябет.**

Ім неабходны пэўныя прадукты харчавання. Пасля неаднаразовых зваротаў грамадзян у райвыканкам, мясцовы райспажыўгандаль вызначыў краму, якая павінна абслугоўваць гэтую катэгорыю людзей і папярэдзіў, што грэчневай крупы выдзелена на квартал толькі 200 кг. У той час, як на адзін месяц хвораму патрэбна 2 кг розных круп.

**Антон МАКЕЙ**

## І прэзідэнт не дапамог

**Падчас правядзення "Дажынак-98" у вёсцы Рагозніца Мастоўскага раёна ў святочных абставінах быў адкрыты новы ФАП.**

На цырымоніі адкрыцця прысутнічаў Аляксандр Лукашэнка. Усе тады радаваліся, але, як высветлілася, дарэмна. Гэта лячэбная ўстанова не працуе і па сённяшні дзень. Не працуе па адной простай прычыне — няма ўрача, які не едзе сюды з-за адсутнасці жылля.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# Гісторыя, якой няма ў ПАДРУЧНІКАХ

**16 красавіка слонімцы мелі магчымасць паўдзельнічаць у гістарычнай канферэнцыі "Беларусь у XX стагоддзі. Гісторыя, якой няма ў падручніках", якую ладзіла грамадскае аб'яднанне "Беларуская жаночая ліга" і слонімскае грамадскае аб'яднанне "Воля да развіцця".**


Фота Віталя ГІЛЯ

*Ніна Стужынская знаёміць прысутных са зместам выставы*

У пачатку канферэнцыі адбылася прэзентацыя выставы "Шляхам змагання", якая расапавядала пра гераічнае змаганне беларускіх патрыётаў у 20-50-я гады XX стагоддзя за незалежнасць Беларусі. Па словах кандыдата гістарычных навук, прэзідэнта Беларускай жаночай лігі Ніны Стужынскай, на выставе прадстаўлена "багата матэрыялаў з розных архіваў Беларусі і замежжа, а таксама з прыватных калекцый гісторыкаў". Найперш гэта фотаздымкі беларускіх палітыкаў і партызанаў (многія — з архіва КДБ), фотакопіі дакументаў, лістоў, карты і г. д. "Шмат рамантыкі, патрыятызму было ў нашай гісторыі, — гаворыць Ніна Стужынская, — Шмат людзей змагалася з савецкім рэжымам, і савецкая ўлада жорстка расправілася з імі". Трэба адзначыць, што сярод іх былі і нашы земляці.

На канферэнцыі з дакладамі выступалі мінскія і слонімскія гісторыкі. Андрэй Кіштымаў спыніўся на эканамічнай гісторыі Слонімшчыны, асабліва закрануў прамысловае развіццё Альбярціна. Выступленне Васіля Супруна было прысвечана маладзёжнаму антысталінскаму руху ў Заходняй Беларусі ў пасляваенны час. Сяргей Чыгрын расказаў пра Максіма Бурсевіча, нашага славутага земляка з Чамяроў, беларускага палітыка, рэпрэсіраванага савецкімі ўладамі. Прысутныя змаглі паслухаць беларускія патрыятычныя песні ў выкананні мінскіх студэнтаў.

**Сяргей ЁРШ**

## Домік на ўскрайку

**З самым лепшым намерам напрыканцы 80-ых гадоў на левабярэжнай частцы Мастоў пачалося будаўніцтва двухпавярховага дома, у якім павінны былі размясціцца новая АТС, паштовае аддзяленне, магазін і кватэра.**

Работу вяло ўпраўленне капітальнага будаўніцтва Мастоўскага райвыканкама па заказу абласнога ўпраўлення сувязі. У пачатку 90-ых будаўніцтва было закончана. У гэты час адбыліся пэўныя палітычныя і эканамічныя змены. І ў арганізацыі не стала грошай. У новых умовах стала немэтазгодным размяшчэнне ў гэтай частцы горада АТС. Потым адбыўся падзел сувязі на электроную і паштовую. У выніку, будынак стаў нікому непатрэбным. Адмаўляліся браць яго на ўласны баланс і гарадскія ўлады. Нават не сталі адкрываць так неабходную ў гэтай частцы горада краму. Не гледзячы на дэфіцыт жылля, нікога не засялілі ў пустуючую кватэру. Толькі ў другой палове 90-ых стала працаваць паштовае аддзяленне. Астатняя частка будынка пацiху пачала прыходзіць у заняпад. Абсталяванне і будматэрыялы раскрадаліся, бо побач на Сонечнай вуліцы актыўна ідзе забудова прыватнага сектара. Не стала шыбаў, вокнаў, дзвяры, ацяпляльных батарэй... Людзі забралі ўсё, што можна было панесці. Цяпер гэты будынак наведваюць мясцовыя выпівохі і бамжы.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ Лукаша Дзекуць-Малея

**У Польшчы, у горадзе Гданьску, прайшло ўшанаванне памяці слонімца Лукаша Дзекуць-Малея (пра яго "ГС" пісала ў № 41 за мінулы год), прымеркаванае да святкавання 82-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі і да 45-ых угодкаў ягонай смерці.**

Мерапрыемства наладзіла мясцовае Беларускае культурнае таварыства „Хатка". Вось што напісала пра гэтую падзею беластоцкая газета "Ніва".

Дзень 25 Сакавіка адзначаецца на Памор'і кожны год з 1989 года. У традыцыі святкавання ўсталявалася звычка прыгадваць імёны стваральнікаў БНР. На гэты раз прыгадалі Лукаша Дзекуць-Малея.

Не гледзячы на халоднае надвор'е, да трыццаці асоб сабралася на гарнізонным могільніку ў Гданьску. Сярод удзельнікаў пераважалі члены баптысцкага збору. З вялікім зацікаўленнем і ўвагай выслухалі яны даклад пра БНРаўскую дзейнасць свайго прэсвітэра, памёршага ў 1955 годзе. Затым пастар Робэрт Мікса прачытаў Другое пасланне Паўла да Цімафея на польскай мове, а доктар Галена Глагоўская той жа фрагмент Біблії, перакладзены на беларускую мову самім Лукашом Дзекуць-Малеем. На магілу, аздобленую бел-чырвона-белым сцягам, удзельнікі паклалі белыя і чырвоныя кветкі. Такія ж кветкі былі пакладзены на магіле Серафімы Дзекуць-Малей, жонкі героя.

Далейшае святкаванне праходзіла ў Сопаце, у дворыку Серакоўскіх, што па вуліцы Чыжэўскага, 12. У запоўненай цалкам зале (за пяцьдзесят асоб) сустрэліся мясцовыя беларусы і прадстаўнікі ўкраінцаў, літоўцаў і немцаў. Традыцыйна, пад незалежніцкімі сімваламі, разам сядзелі беларусы розных вераквызнанняў: праваслаўныя, католікі, баптысты, мусульмане і грэка-католікі.

— Лукаш Дзекуць-Малей гаварыў, што не рэлігія, а патрэба супольнай дзяржаўнасці павінна яднаць беларусаў, — адзначыла ў час свайго даклада Галена Глагоўская. Доктар Данель Дзекуць-Малей, сын прэсвітэра, першы раз у жыцці святкаваў 25 Сакавіка. Яшчэ да мінулага года ён не ведаў пра беларускую мінуўшчыну бацькі. — Гэтая навіна была для нашай сям'і пазітыўным шокам, — адзначыла ўнучка Дзекуць-Малея, Альжбета. Пра гісторыю дзеда даведалася яна ад доктара Глагоўскай, якая, дарэчы, адшукала магілу беларускага дзеяча. Не меншае здзіўленне і зацікаўленне праявіла супольнасць гданьскіх баптыстаў, для якіх прэсвітэр Дзекуць-Малей запісаўся ў памяці залатымі літарамі.



*Галена Глагоўская прамаўляе каля магілы Лукаша Дзекуць-Малея*

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ**

## Слонімскія філаматы

**У мінулую суботу закончылася праца ў Слоніме Народнага ўніверсітэта, якая працягвалася тры месяцы.**

Напомнім, што Народны ўніверсітэт дае магчымасць любым жадаючым праслухаць лекцыі вядомых у Беларусі навукоўцаў па гісторыі, паліталогіі, эканоміцы. Напрыклад, за гэты час Слонім наведвалі і чыталі лекцыі Валерый Карбалевіч, Уладзімір Мацкевіч, Лявон Баршчэўскі, Аляксей Хадыка, Іван Нікітчанка, Уладзімір Сосна, Віктар Чарноў, Яраслаў Раманчук, Уладзімір Падгол, Людміла Гразнова і іншыя.

Каля 60 нашых землякоў прайшлі навучанне ў Народным універсітэце. Потым адбылося тэсціраванне, якое праводзілі вядомыя беларускія навукоўцы Юрый Хадыка і Уладзімір Сосна. Па яго выніках слонімцы атрымалі дыпломы філаматаў (аматараў ведаў).

Арганізатарам дзейнасці Народнага ўніверсітэта ў Слоніме было мясцовае грамадскае маладзёжнае аб'яднанне "Ветразь".

**Сяргей ЁРШ**

Газета Слонімская
20 — 26 красавіка, 2000г. № 17 (150)

ЭКОНОМИКА

# СПАСУТ ЛИ ШЕФЫ СЕЛО?

Владимир КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор

**Назначение, а затем и утверждение Палатой представителей Владимира Ермошина на пост председателя Совета Министров Республики Беларусь вызвало в обществе надежды на изменения в экономике к лучшему. Как-никак, а новый руководитель правительства должен сделать что-то такое, что позволит приостановить кризис и расчистить путь для хотя бы небольшого экономического роста.**

Но конкретные действия нового премьера засвидетельствовали, что ожидать позитивных изменений, пожалуй, не стоит. Новый руководитель правительства либо расчищает прежние завалы в экономике, либо делает шаги, направленные на улучшение положения в одних секторах за счет других при малой вероятности успеха. Подтверждаются слова А.Лукашенко при утверждении В.Ермошина, когда глава государства заявил, что никаких изменений в экономической политике не будет и что "направления движения определены главой государства. Задача правительства — определить, как нажимать на педали".

Нажимая на педали своей ограниченной компетенции, В.Ермошин прежде всего обратил внимание на то, как остановить рост задолженности по заработной плате, которая за первые два месяца года и уже в первые недели новой трудовой деятельности премьера В.Ермошина продолжала расти, достигнув к началу марта 10 миллиардов новых рублей, или 10,4 процента фонда заработной платы. Причем более половины этой задолженности приходится на колхозы и совхозы, где она превышает 60 процентов фонда заработной платы за период задолженности.

Как выйти из этой ситуации? На недавнем президиуме Совета Министров речь даже не шла о том, чтобы установить какую-то справедливость в системе распределительных отношений. Обсуждался только один аспект распределения: как остановить рост задолженности по заработной плате и ликвидировать ее как прижившееся явление.

Упорно искали чиновники выход из тупикового положения, но так и не нашли. Высказывались только за усиление требовательности к руководителям предприятий по организации заработной платы, обтекаемо посоветовали использовать собственные средства, а если их нет, то брать краткосрочные кредиты. Но самое удивительное, что был и такой совет — расширение натуральных расчетов, то есть бартера в распределительных отношениях. Не от хорошей жизни правительство В.Ермошина идет на эту меру. Такого еще не было.

Экономическое положение, в частности финансовое состояние, в стране настолько тяжелое, что В.Ермошин с первых недель своей работы вынужден прибегать к непопулярным мерам. Так, накануне дачного сезона с 10 марта резко (на все 100 процентов) повышены тарифы на проезд в поездах внутриреспубликанского и пригородного сообщения.

Находясь в режиме "нажатия на педали", В.Ермошин определил и свою политику в области финансов и ценообразования. Во время рабочего визита в Бобруйск он заявил, что в этом году правительство не намерено увеличивать определенный Национальным банком размер денежной эмиссии. А она на 2000 год определена в размере 76 миллиардов рублей. Значит, в первом квартале она составит не более 19 миллиардов рублей. "Мы будем работать в пределе тех средств, которые есть в бюджете областей и внебюджетных фондов",— заявил новый руководитель правительства. Однако если правительство действительно намерено "прижать" эмиссию кредитных денег, то чем это можно возместить? Только дополнительными налогами и сборами. И это уже началось. Например, введение на два месяца (март — апрель) дополнительной продажи валюты предприятиями-экспортерами. Плюс к 30 еще 10 процентов.

Что касается изменений в ценообразовании, т.е. введения свободных цен, то на этот шаг правительство В.Ермошина не пойдет. Думается, по той простой причине, что наилучшее время для этого упущено. А при нынешнем экономическом положении страны, считает В.Ермошин (и, видимо, он прав), свободные цены привели бы к значительному обнищанию людей, чего допустить нельзя.

Руководитель правительства только не уточняет, что либерализация цен, то есть на первом этапе их неизбежное повышение, при отсутствии рыночных отношений не может стимулировать рост производства и снижение цен потом. Они просто застынут на запредельном уровне, чего и боится правительство.



Фота IREX/ProMedia

Поэтому неизбежно дальнейшее повышение цен, например, на сельскохозяйственную продукцию. И, по мнению В.Ермошина, они будут подниматься до уровня нормативной себестоимости. Это ничего хорошего потребителям не сулит. Ведь если либерализация цен предполагает их снижение до уровня равновесных в самые короткие сроки, то движение цен к уровню нормативных затрат имеет лишь одну тенденцию — их рост.

Ничего нового пока не заявлено со стороны правительства относительно регулирования денежно-кредитных и валютных отношений. Об этом свидетельствует возня вокруг ставки рефинансирования, устанавливаемой Национальным банком. Более месяца назад она была повышена со 150 до 175 процентов годовых. Если вести речь о том, чтобы обеспечить кредитование народного хозяйства при положительной ставке процента, то это был мощный удар по инвесторам. Почувствовав ошибку, буквально через месяц Национальный банк вновь изменил ставку рефинансирования, т.е. снизил ее сначала до 150, а потом и до 130 процентов. Понятно, по указанию сверху, в том числе и нового премьер-министра.

Однако наиболее неожиданным было его решение, призванное реанимировать шефскую помощь колхозам и совхозам.

Специальным распоряжением правительство закрепило за министерствами и другими республиканскими органами государственного управления отдельные (понятно, отстающие) колхозы и совхозы в качестве подшефных. Такое распоряжение, с одной стороны, есть возврат к старому, а с другой, свидетельствует о том, что проводить реформы в сельском хозяйстве правительство не намерено.

Однако точка на этом не поставлена. Восстановление шефского движения только начинается. Правительство поручило также облисполкомам и Минскому горисполкому закрепить отстающие колхозы и совхозы за промышленными предприятиями. Таким образом, предприятия, и без того экономически ослабленные, будут вынуждены переключать свои ограниченные ресурсы на сельское хозяйство.

Известно, что шефы мало спасали село в прошлые времена. Тем более не спасут сейчас.

## Немцы изучат потребительский спрос беларусов

**В Гродно будет реализовываться немецко-белорусский научно-исследовательский проект по изучению потребительского спроса населения.**

Особый интерес он представляет для профессора сельскохозяйственного факультета университета имени Мартина Лютера Михаэля Гринца. Непосредственно его реализацией будет заниматься экономический факультет Гродненского сельскохозяйственного института.

Сущность проекта состоит в изучении потребительского спроса белорусов, в первую очередь на продукты питания. Состоится анкетирование 80–100 человек, и затем в течение года будут изучаться их потребности. После изучения и обобщения сведений немецкий профессор сравнит их с ситуацией в Германии. Результатом будет публикация научного труда.

В мае Михаэль Гринц приедет в Гродно. Тогда в течение недели пройдет пробное анкетирование и будут обобщены первые результаты. А в июне начнется непосредственная реализация проекта.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## "Наш бронепоезд стоит на запасном пути"

**"На границе Беларуси и России" (по всей видимости, речь идет о совместнрй границе союза двух государств. — БелаПАН) будет создана 300-тысячная совместная военная группировка, вооруженная самым современным оружием.**

Об этом заявил Александр Лукашенко, выступая 11 апреля с ежегодным посланием к парламенту. Группировка, по его словам, будет создана в рамках белорусско-российской оборонной концепции защиты западных рубежей Союза. Ее ядром станут Вооруженные силы Беларуси.

Как отметил глава государства, создание совместной группировки обусловлено сложной военно-политической ситуацией в мире: выходом блока НАТО к западной белорусской границе, эскалацией региональных конфликтов, а также наступлением международного терроризма. "Мы не можем в этой ситуации, поступившись своими интересами, где-то спокойно спать, а потом разводить руками, и в горнила каких-то войн из-за своего головотяпства бросать миллионы людей", — заявил белорусский лидер.

Вопрос военного сотрудничества обсуждался во время встречи Александра Лукашенко с главой Российской Федерации Владимиром Путиным в конце прошлой недели в Минске.

**БелаПАН**

## Через Беларусь пройдет новая магистраль

**Госсекретарь Союза России и Беларуси Павел Бородин на пресс-конференции в Москве заявил о планах строительства Евразийского транспортного коридора.**

Суть проекта — построить железнодорожную магистраль европейского стандарта по маршруту Брест — Минск — Москва. Стоимость проекта, по словам Бородина, 15 миллиардов долларов, а финансировать транспортный коридор готовы компании Ferrostahl, RWE и Dumez GTM.

Эксперты отмечают стратегическую привлекательность проекта, поскольку объем грузоперевозок между Юго-Восточной Азией и Западной Европой растет, а возить грузы по океану достаточно долго. Однако железные дороги России и Беларуси сейчас не обладают достаточной пропускной способностью.

Некоторые из экспертов полагают, что проектом будет недоволен Александр Лукашенко, поскольку Беларусь получает неплохую прибыль от эксплуатации терминала по перестановке вагонов с европейских рельсов на российские.

В России уже предпринимало попытку построить новую современную железную дорогу РАО "Высокоскоростные магистрали". Однако этот проект провалился.

**Юрий АЛЕКСЕЕВ**

## Создается новый фонд продовольствия

**Совет Министров Беларуси определил объемы стабилизационных фондов продовольствия на межсезонный период 2000—2001 годов.**

Фонды создаются областными и Минским городским исполнительными комитетами до ноября нынешнего года. Всего по республике в них будут заложены 3900 тонн мяса, 12850 тонн животного масла, 2910 тонн сычужных сыров, 14000 тонн сухого молока, 2400 тонн творога, 96030 тонн картофеля, 56935 тонн овощей и 6680 тонн фруктов.

## Нефти нам Россия даст меньше

**В апреле Россия значительно сократила поставки нефти белорусским нефтеперерабатывающим заводам (НПЗ).**

С 1 по 10 апреля НПЗ получили 239 тысяч тонн российского сырья, или 66 процентов к аналогичному периоду апреля прошлого года. При этом если на ПО "Нафтан" поставлено 100 процентов запланированного объема, то Мозырский НПЗ получил лишь 37 процентов.

**БелаПАН**

РЭПАРТАЖ

# ПАДЛЯШША

## На Беласток

На памежным пераходзе Брузгі мікраўтобус і два "Мерседэсы", на якіх наша група журналістаў выехалі з Гродна ў Беласток на семінар, доўга не затрымаліся. Абмінуўшы даўжэзную чаргу аўтатранспарту, нашы вадзіцелі хутка ўладзілі з памежнікамі папяровыя справы.

Асаблівага адчування, што ты ўжо ў іншай краіне, не было. Абапал дарогі — самы што ні на ёсць беларускі краявід: лес, палі, балотцы, такія як і ў нас, не вельмі прывабныя ў сваёй большасці, вясковыя хаты. Розніца была толькі ў тым, што шыльды і дарожныя ўказальнікі — на польскай мове. Ды яшчэ здзівіла мноства загароджаў на выпасах жывёлы. Як потым нам патлумачылі, кожны гаспадар мае свой участак лугу, дзе пасецца яго скаціна. Гэта даволі зручна, загнаў — і пастуха не трэба.

І толькі бліжэй да Беластока ў вёсках пачалі трапляцца невялікія, але з густам пабудаваныя катэджы. Сам Беласток знешне нечым нагадвае Гродна. Побач стаяць касцёлы і праваслаўныя цэрквы, такія ж дамы старой планіроўкі і характэрная прыкмета савецкай архітэктуры — дамы-скрыні спальных мікрараёнаў. Істотнае адрозненне — у мностве рэкламы, колькасці розных крам, бараў, рэстаранаў, невялікіх гатэляў і яшчэ — у хуткасці руху аўтамабіляў на гарадскіх вуліцах.

## У гасцях

Гродзенскую журналісцкую сябрыну ў Беластоку прымаў грамадска-адукацыйны цэнтр "Польшча — Беларусь". Гэта няўрадавая арганізацыя існуе з 1992 года з мэтай пашырэння культурна-гуманітарных сувязяў паміж Польшчай і Беларуссю, і ў прыватнасці паміж Гродзеншчынай і Беласточчынай. За час сваёй дзейнасці Цэнтрам было арганізавана мноства сустрэч, канцэртаў, фестываляў, а таксама ажыццяўлена шмат выдавецкіх праектаў. З 1992 года да гэтага часу было выдадзена 20 кніг. Дарэчы, апошняй з іх быў пераклад на польскую мову кнігі Васіля Быкава "Сцяна". Праўда, пакуль толькі накладам у 1000 паасобнікаў. Прэзентацыя выдання з удзелам аўтара, перакладчыка і выдаўцоў павінна яшчэ адбыцца ў чэрвені месяцы...

Пра гісторыю стварэння і дзейнасць Цэнтра нам расказаў адзін з яго кіраўнікоў Яўген Вапа, гісторык па адукацыі, журналіст па прафесіі і беларус па паходжанню.

За два з паловай дні знаходжання ў Беластоку мы сустрэліся са спадарыняй Янай Пільціцкай, адным з кіраўнікоў выдавецкага канцэрна "Оркла прэс", які дзейнічае на тэрыторыі Польшчы, Літвы і Украіны. Спадарыня Яна расказала пра дзейнасць канцэрна і СМІ на тэрыторыі гэтых краін і выказала шкадобу, што канцэрн не можа інвесціраваць сродкі ў Беларусь з-за палітычнага становішча ў нашай краіне. А падчас знаёмства спадарыня Яна прызналася, што бацькі яе родам з Навагрудчыны... Сапраўды, багатая зямля Беластоцкая на людзей "з беларусаў".

Аб праблемах беларусаў Беласточчыны, мабыць, найбольш падрабязна, расказваў рэдактар беларускай газеты "Ніва", якая выдаецца ў Беластоку з 1956 года, Віталь Луба.




*Удзельнікі семінара з Гродзеншчыны і Мінска ў грамадска-адукацыйным Цэнтры "Польшча-Беларусь" у Беластоку*

Беласточчына — этамалагічная Беларусь на захадзе, так як Смаленшчына — на ўсходзе. Але волей гістарычнага лёсу гэтыя землі апынуліся ў складзе суседніх дзяржаў. Доўгае знаходжанне ў чужым моўным, культурным, побытавым асяродку вядзе да асіміляцыі. І Беласточчына — яскравы гэтаму прыклад. Старэйшае пакаленне беларусаў, якія нарадзіліся да вайны, адыходзіць у нябыт. Іх дзеці, і тым больш унукі, у сваёй большасці лічаць сябе палякамі. Спрыяла апалячванню масавае перасяленне сялян у гарады і пасляваенная "міграцыя" моладзі ў сярэднія раёны Польшчы. На агульнапольскім абсягу, Беласточчына да гэтай пары — неперспектыўны край. У многім прычынай неперспектыўнасці з'яўляецца дзяржаўная палітыка, якую можна коратка акрэсліць, як палітыка найменшага спрыяння. Так было пры дыктатуры кампартыі, тое ж працягваецца і з прыходам у Польшчу дэмакратыі. Край бедны. Вёска вымірае. Як паведаміў нам спадар Луба, беларуская мова сёння выкладаецца толькі ў ліцэйскіх класах у Гайнаўцы і Бельску, ды яшчэ ў некалькіх пачатковых класах на вёсцы. На беларускай мове выдаецца толькі адна газета "Ніва", наклад якой у апошні час зменшыўся да 2 тысяч асобнікаў (у лепшыя часы — 8,5 тыс. асобн.). Калі ў далёкім 1956 годзе ўлады афіцыйна прызналі, што ў краі існуе праблема нацыянальных меншасцяў і з'явілася беларуская газета, а ў школах дзеці пачалі вывучаць беларускую мову, то сёння тыя беларусы, якія яшчэ засталіся, сумна жартуюць, што хутка такой праблемы не будзе, бо тут не застанецца беларусаў...

Кантакты жыхароў Беласточчыны са сваімі ўсходнімі суседзямі з Гродзеншчыны за апошнія два гады заўважна зменшыліся. Нават гандлёвы абарот, па статыстычных дадзеных, зменшыўся за гэты час у тры разы. А з уваходам Польшчы ў НАТА чакаецца яшчэ большае "пахаладанне" у суседскіх адносінах.

Яшчэ мы паспелі наведаць рэдакцыю самай вялікай штодзённай рэгіянальнай газеты ў Падляскім ваяводстве "Ранішні кур'ер"(наклад 100 тыс. асобнікаў у тыдзень) і рэдакцыю Беластоцкага аддзялення радыё "Рацыя", якое трансліруе свае праграмы для беларусаў толькі ў радыусе 40 км. вакол Беластока. Розніца ў маштабах гаворыць сама за сябе... І ўсё ж, узровень жыцця на Беласточчыне ў параўнанні з жыццём людзей у сучаснай Беларусі — непараўнальная раскоша. Мы цягнемся ўжо нават і не ў хвасце Еўропы.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### ДАВЕДКА

**Падляскае ваяводства ў рэспубліцы Польшча мае насельніцтва каля паўтара мільёна чалавек, з якіх беларусы па паходжанню складаюць да 500 тысяч (па розных звестках — ад 500 да 40 тысяч). Край гэты лічыцца самым бедным ва ўсёй Польшчы. Капітал туды даходзіць марудна. Няма развітай інфраструктуры камунікацый: добрых шасэйных дарог, разгалінаванай чыгункі, аэрапорта. У Беластоку, адміністрацыйным цэнтры ваяводства, пражывае каля трохсот тысяч чалавек. У горадзе ёсць два буйныя прадпрыемствы — лёгкай прамысловасці і алкагольных вырабаў. Беспрацоўе сярод працаздольнага насельніцтва дасягае там 20 працэнтаў (у сярэднім па Польшчы беспрацоўных — 14%). На Беласточчыне жыве шмат нацыянальных меншасцяў. Акрамя беларусаў, гэта ўкраінцы, яўрэі, літоўцы, цыганы, рускія і інш.**

# На вайне кожны хоча ЗАСТАЦЦА ЖЫВЫМ

**Тэма чэчэнскай вайны і ўдзелу ў ёй нашых землякоў на старонках "ГС" набыла свой працяг. Нагадаем, што ў № 15 за гэты год быў змешчаны матэрыял "Беларус на чэчэнскай вайне", у якім удзельнік ваенных дзеянняў падзяліўся сваімі ўражаннямі ад убачанага.**

І вось нядаўна ў рэдакцыю завітаў слонімец Раман, якому таксама давялося ваяваць у складзе расійскіх войскаў у Чэчні. Раман не згодны з тым, што дэсантнікі расійскіх войскаў слаба падрыхтаваны. Ён падзяліўся сваімі ўспамінамі, думкамі наконт вайны ў Чэчні. Мяркуем, што яны будуць цікавы і для нашых чытачоў.

— Я ваяваў на першай чэчэнскай вайне ў складзе расійскіх дэсантнікаў. Нас рыхтавалі на базе 21-й паветрана-дэсантнай брыгады ў горадзе Стаўрапалі. Навучанне ішло з 5 ранку і да 11 гадзін вечара. Вучыліся страляць з усіх пазіцый і відаў зброі, у тым ліку і кіруемымі ракетамі "Чмель", выстрэльвалі па 300 патронаў у дзень. Вучыліся заходзіць у падвалы, штурмаваць шматпавярховыя дамы. Усё навучанне праходзіла на ўскрайку Стаўрапаля ў недабудаваных раёнах горада.

У пачатку сакавіка 1996 года нашу роту ў колькасці ста чалавек (а гэта былі, у асноўным, хлопцы ад 20 да 40 гадоў) паднялі па трывозе, і мы выйшлі на тэрыторыю Чэчні. Нас прыкамандзіравалі да 131-й Майкопаўскай брыгады, якая напярэдадні навага 1995-га года была амаль цалкам знішчана ў Грозным...

Мы з імі злучыліся ў Шаўкаўскім раёне, дзе яны праводзілі аперацыю па выяўленню бандфарміраванняў. Нас паставілі ў рэзерв. Чэчэнцы баяліся аднаго слова — дэсантнікі. Наогул, мы выконвалі ў Чэчні, у асноўным, дыверсійныя задачы па знішчэнню бандфарміраванняў у гарах. У Шаўкаўскім раёне мы ішлі па слядах банды ў складзе 70 чалавек, якая не падначальвалася ні федэралам, ні кіраўніцтву баевікоў. Гэта былі марадзёры. Спачатку ішла разведка. Потым асноўная група. Дня чатыры выяўлялі базы баевікоў. Потым адыходзілі на бяспечную адлегласць. А па перададзеных каардынатах "вяртушкі" наносілі ўдары.

Аднойчы ў засадзе мы знаходзіліся два тыдні. На сцежцы баевікоў хлопцы ляжалі пад праліўным дажджом. Менавіта па ёй баевікі павінны былі прайсці, бо іншыя шляхі былі перакрыты.

Перш чым зайсці ў вёску, спачатку размаўлялі парламенцёры: з іхняга боку старэйшына, з нашага — наша камандаванне. Дамаўляліся. Вёска бралася ў кола бранетэхнікай і войскамі, давалася адна гадзіна на выхад мірных жыхароў. Іншы раз даваліся суткі. У асноўным, гінулі старыя, якія не маглі выйсці з населенага пункта... Старых гэтых стараліся не чапаць, а вось маладых, якія стралялі... Іх дамы знішчаліся ўшчэнт. Каб было менш страт сярод нашых.

Сапёраў сярод нас не было, нас вучылі ўстанаўленню "расцяжак", сігнальных ракет і астатніх "падарункаў" для баевікоў. Існуюць спецыяльныя падраздзяленні, якія займаюцца размініраваннем. Там кожны выконвае сваю задачу.



*Разбураная чэчэнская вёска Рошні-Чу*

Я лічу, што параўноўваць чэчэнскую і афганскую вайну нельга. Тым больш не мае права рабіць такія параўнанні чалавек, які не быў у Афгане. Таму, што любая вайна — цяжкая. У мяне ёсць сябры, якія прайшлі Афганістан і расказвалі такія рэчы, якія не ідуць у параўнанне з чэчэнскай вайной. І страху там болей было... У Чэчні — вайна як вайна. І кожны на ёй хоча застацца жывым.

У паветрана-дэсантных войсках служаць, у асноўным, фанаты сваёй справы, свайго роду войск. Пасля той, першай вайны, многія нашы хлопцы сталі інвалідамі, непрыдатнымі да ваеннай службы. На сённяшні момант у часці, дзе я служыў на паўночным Каўказе, гэтых хлопцаў са службы не выганяюць. Наадварот, ім даюць такую працу, якую яны могуць рабіць. Хлопцы сталі кінолагамі, старшынямі рот. Выязджаюць на баявыя дзеянні без рук, без пальцаў на руках, нават на пратэзе (былі такія хлопцы).

Калі б была мая воля, я даў бы яшчэ на самым пачатку магчымасць высвятліць адносіны Ельцыну і Дудаеву. Хай бы яны, а не простыя салдаты, вырашалі б пытанні нафты, грошай...

Тое, што свае білі па сваіх, дык гэта зусім рэальна. Асабліва гэта адносіцца да баёў у гарадскіх умовах. Калі баевікоў зацiскалі ў кола падраздзяленні розных родаў расійскіх войск. Баевікі ў такім выпадку адыходзілі ў падвалы, хаваліся там. Атрымлівалася так, што агонь быў скрыжаваны. Свае сваіх білі...

Яшчэ прыгадваецца прыклад дзедаўшчыны ў 131-й Майкопаўскай брыгадзе. Прыйшлі ў часць маладыя салдаты. Вырашылі "дзяды" расійскай арміі выпрабаваць, ці вытрымаюць дзве бронекамізэлькі адзін выстрал гранатамёта "Муха"? Апранулі маладога салдата. Адышлі на адлегласць і стрэлілі. У выніку, салдата збіралі па кавалках...

У асноўным, хлопцы ў Чэчні "сядзелі" на трох відах наркотыкаў. Першае — гарэлка. У асноўным яе куплялі ў чэчэнцаў. Спачатку яе пілі самі прадаўцы (ці не атручана?), а пасля мы куплялі оптам некалькі скрынь. Другім наркотыкам быў парамедол, які меў кожны баец. І яшчэ — анаша. Яе мы таксама бралі ў чэчэнцаў.

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ**

